*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПОШЛІНЕ

**Артыкул 1. Плацельшчыкі дзяржаўнай пошліны**

Плацельшчыкамі дзяржаўнай пошліны з'яўляюцца юрыдычныя і фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць у сваіх інтарэсах юрыдычныя дзеянні і атрымліваюць дакументы, што маюць юрыдычную сілу, у спецыяльных установах, якія маюць на тое паўнамоцтвы.

**Артыкул 2. Аб'екты абкладання пошлінай**

Дзяржаўная пошліна бярэцца:

1) з іскавых заяў, заяў і скарг, якія падаюцца ў суды, з касацыйных і наглядных скарг на судовыя пастановы, а таксама за выдачу судамі копій дакументаў;

2) з наглядных скарг на судовыя пастановы, якія падаюцца ў органы пракуратуры, а таксама за выдачу пракуратурай копій дакументаў;

3) з іскавых заяў, якія падаюцца ў гаспадарчыя суды, а таксама з заяў і скарг аб пераглядзе рашэнняў гаспадарчых судоў;

4) за натарыяльныя дзеянні, якія ажыццяўляюцца дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі і выканаўчымі органамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў, а таксама за выдачу дублікатаў натарыяльна засведчаных дакументаў; за складанне выканаўчымі органамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў праектаў здзелак і заяў, выраб копій дакументаў і выпісак з іх:

5) за рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану і за выдачу грамадзянам паўторных пасведчанняў аб рэгістрацыі, а таксама за выдачу пасведчанняў у сувязі са змяненнем, дапаўненнем, выпраўленнем і аднаўленнем запісаў актаў грамадзянскага стану;

6) за выдачу дакументаў на права выезду за мяжу і запрашэнне ў Рэспубліку Беларусь асоб з іншых краін, за ўнясенне змяненняў у гэтыя дакументы; за рэгістрацыю дакументаў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, за прадаўжэнне тэрміну іх рэгістрацыі; за выдачу выязных і ўязных віз; за выдачу і прадаўжэнне пасведчання на права жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь; з заяў аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь і аб выхадзе з грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

7) за прапіску грамадзян;

8) за прадастаўленне права на паляванне;

9) за выплату грамадзянам, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, сум па грашовых пераводах, што паступаюць з-за мяжы.

**Артыкул 3. Стаўкі дзяржаўнай пошліны**

Стаўкі дзяржаўнай пошліны ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

За натарыяльныя дзеянні, якія ажыццяўляюцца дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі і выканаўчымі органамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў, памеры дзяржаўнай пошліны ўстанаўліваюцца ў абсалютных велічынях па кожнаму віду дзеянняў і дакументаў, за якія яна бярэцца.

**Артыкул 4. Ільготы па дзяржаўнай пошліне**

Вызваляюцца ад выплаты дзяржаўнай пошліны:

У СУДОВЫХ УСТАНОВАХ:

1) істцы — паісках аб спагнанні аліментаў;

2) істцы — паісках аб пакрыцці шкоды, прычыненай калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, а таксама смерцю карміцеля;

3) істцы (рэабілітаваныя грамадзяне, члены іх сем'яў, якія адносяцца да кола асоб, што забяспечваюцца пенсіяй з выпадку страты карміцеля, і наследнікі па закону, якія адносяцца да першай чаргі) — па исках, што падаюцца ў суды аб аднаўленні ў правах і пакрыцці ўрону;

4) істцы (органы сацыяльнага страхавання і органы сацыяльнага забеспячэння) — па рэгрэсных исках аб спагнанні з прычыняльніка шкоды сум дапамог і пенсій, выплачаных пацярпеўшаму;

5) органы сацыяльнага забеспячэння — па рэгрэсных исках аб спагнанні з прычыняльніка шкоды сум кампенсацыі расходаў на бензін, рамонт, тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў і мотакалясак і запасныя часткі да іх, на абучэнне інвалідаў ваджэнню аўтатранспарту, а таксама па исках аб спагнанні няправільна выплачаных дапамог і пенсій;

6) істцы — па исках аб пакрыцці матэрыяльнага ўрону, прычыненага злачынствам, аб якім заяўлена ў справе і па якому не вынесена рашэнне ў ходзе разгляду крымінальнай справы;

7) бакі — па спрэчках, звязаных з пакрыццём урону, прычыненага грамадзянам незаконным асуджэннем, незаконным прыцягненнем да крымінальнай адказнасці, незаконным прымяненнем у якасці меры стрымання заключэння пад варту або незаконным накладаннем адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе арышту або папраўчых работ;

8) юрыдычныя і фізічныя асобы — за выдачу ім дакументаў у сувязі з крымінальнымі справамі і справамі па аліментах;

9) істцы (органы ўнутраных спраў) — па справах аб спагнанні расходаў па пошуках асоб, якія ўхіляюцца ад выплаты аліментаў і іншых плацяжоў;

10) грамадзяне — са скарг аб памылках у спісах выбаршчыкаў;

11) грамадзяне — з касацыйных скарг па справах аб скасаванні шлюбу, акрамя раздзелу маёмасці;

12) істцы — па справах аб спагнанні сум ляснога даходу (уключаючы страты і няўстойкі за парушэнне Правіл водпуску лесу на корані, а таксама штрафы за самавольную высечку лесу, касьбу і выпас жывёлы);

13) органы пракуратуры, дзяржаўныя і грамадскія органы, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадзяне, якія звярнуліся ў выпадках, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам, з заявамі ў суд у абарону правоў і інтарэсаў іншых юрыдычных і фізічных асоб;

14) істцы (Беларуская дзяржаўная страхавая камерцыйная арганізацыя і яе органы на месцах) — па ўсіх справах, звязаных з аперацыямі па абавязковаму і добраахвотнаму страхаванню;

15) істцы (навучальныя ўстановы . сістэмы адукацыі) — па исках аб спагнанні панесеных дзяржавай расходаў на ўтрыманне навучэнцаў, самавольна пакінуўшых навучальныя ўстановы і выключаных з іх;

16) істцы (Пенсіённы фонд Рэспублікі Беларусь і яго органы на месцах) — па исках аб спагнанні з фізічных асоб абавязковых плацяжоў;

17) дзяржаўныя падатковыя інспекцыі і фінансавыя органы — за падачу ў суд заяў па справах асобага вядзення; па ўсіх исках і заявах аб спагнанні плацяжоў у бюджэт; па исках іншых асоб да дзяржаўных падатковых інспекцый і фінансавых органаў аб спагнанні ў іх карысць сум з бюджэту, а таксама за падачу касацыйных і наглядных скарг па такіх справах;

18) Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь пры запыце дакументаў, якія звязаны з даручэннем устаноў замежных дзяржаў, з якімі заключаны дагаворы аб аказанні прававой дапамогі;

19) істцы (Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, яго тэрытарыяльныя органы і органы прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў) — па исках, якія вынікаюць з прычыны парушэння парадку раздзяржаўлення, прыватызацыі і кіравання дзяржаўнай маёмасцю;

20) асобы, якія падаюць заявы аб адмене вызначэння суда аб спыненні справы або пакіданні яе без разгляду, аб адтэрміноўцы або растэрміноўцы выканання рашэння, змяненні спосабу і парадку выканання рашэння, аб забеспячэнні іску або аб замене аднаго віду забеспячэння іншым, заявы аб пераглядзе рашэння, вызначэння або пастановы суда па новаадкрытых абставінах, заявы аб зняцці або змяншэнні штрафу, накладзенага судом, аб павароце выканання рашэння суда, аб аднаўленні прапушчанага тэрміну, скаргі на дзеянні судовага выканаўцы, прыватныя скаргі на вызначэнні суда аб адмове аб зняцці або змяншэнні штрафу і іншыя прыватныя скаргі на вызначэнне суда, а таксама скаргі на пастановы па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях.

У ОРГАНАХ, ЯКІЯ ВЫКОНВАЮЦЬ НАТАРЫЯЛЬНЫЯ ДЗЕЯННІ:

1) грамадзяне — за выдачу або засведчанне правільнасці копій дакументаў, неабходных для атрымання дзяржаўных дапамог і пенсій, а таксама па справах апекі (папячыцельства) і ўсынаўлення (удачарэння);

2) юрыдычныя асобы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, — за выдачу ім пасведчанняў аб праве на спадчыну маёмасці, што пераходзіць ім па завяшчанню;

3) дзяржаўныя падатковыя інспекцыі — за выдачу ім пасведчанняў аб праве дзяржавы на спадчыну;

4) грамадзяне — за выдачу ім пасведчанняў аб праве на спадчыну маёмасці асоб, загінуўшых пры выкананні дзяржаўных заданняў. У сувязі з выкананнем іншых дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў ці з выкананнем абавязку грамадзяніна па выратаванню чалавечага жыцця, ахове дзяржаўнай уласнасці і правапарадку;

5) грамадзяне — за выдачу ім пасведчанняў аб праве на спадчыну жылога дома, яго часткі, кватэры або паю (узносу) у жыллёва-будаўнічым кааператыве, калі яны пражывалі, былі прапісаны на дзень смерці спадчынадаўцы і працягваюць пражываць у гэтым доме (кватэры) пасля смерці спадчынадаўцы;

6) грамадзяне — за выдачу ім пасведчанняў аб праве на спадчыну жылых дамоў, якія знаходзяцца ў сельскім населеным пункце, а таксама ў гарадах раённага падпарадкавання і пасёлках гарадскога тыпу (для наследнікаў першай чаргі па закону), калі яны перасяляюцца ў гэтыя дамы на пастаяннае жыхарства;

7) непаўналетнія, інваліды I і II груп — за выдачу пасведчанняў аб праве на спадчыну;

8) грамадзяне — за выдачу пасведчанняў аб праве на спадчыну на ўклады ў банках, разліковыя чэкі і чэкавыя кніжкі, на страхавыя сумы па дагаворах асабістага і маёмаснага страхавання, аблігацый дзяржаўных пазык, аблігацый дзяржаўных мэтавых беспрацэнтных пазык, сумы заработнай платы, аўтарскага права, сумы аўтарскага ганарару і ўзнагароджання за адкрыццё, вынаходства, рацыяналізатарскую прапанову і прамысловыя ўзоры;

9) грамадзяне — за пасведчанне іх завяшчанняў і дагавораў дарэння маёмасці на карысць дзяржавы, а таксама на карысць дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый;

10) грамадзяне — за пасведчанне даверанасцей на атрыманне пенсій, дапамог і аліментаў;

11) інваліды Вялікай Айчыннай вайны, а таксама іншыя інваліды з ліку ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі з прычыны ранення, кантузіі ці калецтва, атрыманых пры абароне Радзімы (і прыраўнаваныя да іх асобы) або пры выкананні іншых абавязкаў вайсковай службы, або з прычыны захворвання, звязанага са знаходжаннем на фронце,— за ўсе віды аднабаковых здзелак;

12) інваліды і пенсіянеры незалежна ад віду назначанай пенсіі, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку недзеяздольнымі,— за ўсе натарыяльныя дзеянні немаёмаснага характару;

13) асобы, атрымаўшыя раненне на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а таксама асобы, атрымаўшыя раненне пры абароне Радзімы (і прыраўнаваныя да іх асобы) ці пры выкананні абавязкаў вайсковай службы, — за натарыяльнае засведчанне правільнасці копій дакументаў аб раненні і хваробе, звязанай з раненнем;

14) члены сем'яў асоб, загінуўшых або прапаўшых без вестак пры абароне Радзімы (і прыраўнаваныя да іх асобы) ці пры выкананні іншых абавязкаў вайсковай службы,—за натарыяльнае засведчанне правільнасці копій паведамленняў вайсковых часцей аб забітых ці прапаўшых без вестак ваеннаслужачых і партызанах, а таксама копій дакументаў па справах аб прадастаўленні льгот;

15) органы міліцыі — за здзяйсненне выканаўчых надпісаў на спагнанне з грамадзян кошту санапрацоўкі ў медыцынскіх выцвярэзніках;

16) дзяржаўныя падатковыя інспекцыі — за здзяйсненне выканаўчых надпісаў на спагнанне платы з бацькоў за ўтрыманне іх дзяцей у спецыяльных выхаваўчых установах, за выдачу дубліката і копій пасведчанняў аб праве дзяржавы на спадчыну і за ўсе дакументы, неабходныя для атрымання гэтых пасведчанняў;

17) дзіцячыя дашкольныя ўстановы (дзіцячыя сады, яслі і яслі-сады) і школы-інтэрнаты — за здзяйсненне выканаўчых надпісаў аб спагнанні платы з бацькоў за ўтрыманне іх дзяцей у дзіцячых дашкольных установах і школах-інтэрнатах;

18) наследнікі асоб, прапаўшых без вестак на франтах Вялікай Айчыннай вайны,— за выдачу пасведчанняў, якія пацвярджаюць права на атрыманне ў спадчыну маёмасці прапаўшых без вестак асоб;

19) наследнікі рабочых і служачых, якія былі застрахаваны за кошт арганізацый на выпадак смерці і загінулі ад няшчаснага выпадку,— за выдачу пасведчанняў, што пацвярджаюць права на атрыманне ў спадчыну страхавога ўзнагароджання;

20) грамадзяне — за засведчанне правільнасці копій дакументаў і выпісак з іх, неабходных для далучэння да спадчынных спраў на імя непаўналетніх;

21) маці — за засведчанне правільнасці копій з дакументаў па справах аб узнагароджанні іх ордэнамі і медалямі за мнагадзетнасць;

22) грамадзяне, якія пакутуюць ад хранічнага псіхічнага захворвання, над якімі ўстаноўлена апека ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам,— за атрыманне пасведчанняў аб атрыманні імі ў спадчыну маёмасці;

23) грамадзяне — за выдачу ім пасведчанняў аб праве на спадчыну страхавых сум па абавязковаму страхаванню пасажыраў і страхавога пакрыцця па абавязковаму страхаванню маёмасці, якая належыць грамадзянам;

24) рэабілітаваныя грамадзяне, члены іх сем'яў, што адносяцца да кола асоб, якія забяспечваюцца пенсіяй з прычыны страты карміцеля, і наследнікі па закону, што адносяцца да першай чаргі, — за ўсе дзеянні, якія выконваюцца для іх, звязаныя з рэабілітацыяй і пакрыццём урону;

25) асобы, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны адчужэння ў 1986—1987 гадах, і асобы, эвакуіраваныя (у тым ліку выехаўшыя добраахвотна) у 1986 годзе з зоны адчужэння ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, а ў выпадку іх гібелі — члены іх сем'яў, — за засведчанне правільнасці копій дакументаў, неабходных для прадастаўлення льгот.

У ОРГАНАХ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА АФАРМЛЕННЕМ ДАКУМЕНТАЎ НА ВЫЕЗД ЗА МЯЖУ і НА ЎЕЗД З-ЗА МЯЖЫ

1) грамадзяне — за выдачу ім дыпламатычных, службовых пашпартоў і пашпартоў марака;

2) грамадзяне — за выдачу дакументаў на выезд за мяжу, калі выезд звязаны са смерцю ці наведваннем магілы (месцаў пахавання) блізкіх сваякоў, а таксама за выдачу дакументаў на запрашэнне ў Рэспубліку Беларусь асоб, што пражываюць у краінах, з якімі існуе бязвізавы парадак уезду, у сувязі са смерцю або цяжкай хваробай блізкіх сваякоў;

3) асобы, якія не дасягнулі 16-гадовага ўзросту,— за выдачу ім дазволаў і дакументаў на выезд за мяжу;

4) замежныя турысты — за рэгістрацыю іх дакументаў;

5) замежныя грамадзяне, якім Рэспубліка Беларусь прадаставіла права прыстанішча, і асобы, прыраўнаваныя да іх, члены іх сем'яў і іх дзеці — за выдачу ім дакументаў на выезд за мяжу;

6) замежныя грамадзяне, якія прыязджаюць у Рэспубліку Беларусь, — за выдачу і прадаўжэнне пасведчання на права жыхарства, рэгістрацыю і прадаўжэнне тэрміну рэгістрацыі замежных пашпартоў ці дакументаў, якія замяняюць іх, а таксама за выдачу дакументаў на запрашэнне ў Рэспубліку Беларусь, калі на ўмовах узаемнасці прадугледжана вызваленне ад выплаты дзяржаўнай пошліны адпаведнымі міжнароднымі дагаворамі, заключанымі паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі краінамі;

7) грамадзяне, якіх выклікаюць у замежны суд у адпаведнасці з дагаворамі аб аказанні прававой дапамогі па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, заключанымі Рэспублікай Беларусь з іншымі краінамі, у якасці сведкі, эксперта або боку па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах,— за выдачу ім дазволаў на права выезду за мяжу;

8) замежныя грамадзяне, якія выдвараюцца з Рэспублікі Беларусь,— за выдачу ім выязных віз;

9) навучэнцы і студэнты, якія выязджаюць па накіраваннях міністэрстваў Рэспублікі Беларусь для праходжання вытворчай практыкі за мяжу,— за выдачу ім агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў.

У ОРГАНАХ ЗАПІСУ АКТАЎ ГРАМАДЗЯНСКАГА СТАНУ:

1) грамадзяне — за рэгістрацыю нараджэння, смерці, усынаўлення (удачарэння) і ўстанаўлення бацькоўства, за выдачу пасведчанняў пры змяненні, дапаўненні і папраўцы запісаў актаў аб нараджэнні ў выпадках устанаўлення бацькоўства, усынаўлення (удачарэння), а таксама ў сувязі з памылкамі, дапушчанымі пры рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану;

2) грамадзяне — за выдачу ім органамі загса пасведчанняў аб смерці ваеннаслужачых і ваенных будаўнікоў, загінуўшых у перыяд праходжання вайсковай службы ў мірны час, у сувязі са змяненнем, дапаўненнем і папраўкай запісаў, а таксама за выдачу паўторных пасведчанняў;

3) інваліды Вялікай Айчыннай вайны, а таксама іншыя інваліды з ліку ваеннаслужачых, стаўшыя інвалідамі з прычыны ранення, кантузіі ці калецтва, атрыманых пры выкананні дзяржаўных заданняў ці пры выкананні іншых абавязкаў вайсковай службы, або з прычыны захворвання, звязанага са знаходжаннем на фронце,— за выдачу паўторных пасведчанняў аб рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану;

4) грамадзяне — за выдачу ім даведак аб адсутнасці запісаў актаў грамадзянскага стану ў органах загса;

5) грамадзяне — за выдачу ім на падставе рашэння суда пасведчанняў аб скасаванні шлюбу з асобай, якая прызнана ў парадку, устаноўленым законам, без вестак прапаўшай ці недзеяздольнай з прычыны псіхічнага захворвання, або з асобай, якая асуджана за ўчыненне злачынства да пазбаўлення волі тэрмінам на тры ці больш гадоў;

6) рэабілітаваныя грамадзяне, члены іх сем'яў, што адносяцца да кола асоб, якія забяспечваюцца пенсіяй з прычыны страты карміцеля, і наследнікі па закону, што адносяцца да першай чаргі, — за ўсе дакументы, звязаныя з рэабілітацыяй;

7) камісіі па справах непаўналетніх і органы адукацыі — за выдачу паўторных пасведчанняў аб нараджэнні для накіравання дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, ва ўсе дзіцячыя інтэрнатныя ўстановы і навучальныя ўстановы.

У ОРГАНАХ МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ВЫКАНАЎЧЫХ ОРГАНАХ ПАСЯЛКОВЫХ І СЕЛЬСКІХ САВЕТАЎ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ ЗА ПРАПІСКУ ГРАМАДЗЯН:

1) інваліды, якія прыязджаюць у курортную мясцовасць для лячэння і адпачынку на працягу лячэбнага і дачнага сезона;

2) састарэлыя грамадзяне і інваліды, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў;

3) навучэнцы школ-інтэрнатаў і прафтэхвучылішч, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні і пражываюць у інтэрнатах.

Паніжаюцца стаўкі дзяржаўнай пошліны:

У органах, якія займаюцца афармленнем дакументаў на выезд за мяжу і на ўезд з-за мяжы:

1) на 50 працэнтаў за выдачу замежных пашпартоў, дакументаў, якія замяняюць іх, а таксама за выдачу да пашпарта грамадзяніна ўкладыша на права выезду за мяжу або прадаўжэння тэрміну дзеяння гэтых дакументаў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, пенсіянерам і інвалідам;

2) на 50 працэнтаў за выдачу да пашпарта грамадзяніна ўкладыша на права выезду за мяжу або прадаўжэнне тэрміну яго дзеяння жыхарам прыгранічных раёнаў для перасячэння Дзяржаўнай граніцы ў спрошчаным парадку.

**Артыкул 5. Правы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і іншых органаў па ўстанаўленню дадатковых ільгот па дзяржаўнай пошліне**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права ўстанаўліваць дадатковыя льготы па дзяржаўнай пошліне.

Абласныя і Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў маюць права ўстанаўліваць дадатковыя льготы па дзяржаўнай пошліне, якая залічваецца ў мясцовы бюджэт, для асобных плацельшчыкаў і для груп плацельшчыкаў, а раённыя і гарадскія Саветы народных дэпутатаў — для асобных плацельшчыкаў.

Суд або суддзя маюць права ўстанаўліваць дадатковыя льготы ў частцы выплаты дзяржаўнай пошліны па судовых справах для асобных грамадзян зыходзячы з іх маёмаснага становішча.

**Артыкул 6. Залічэнне дзяржаўнай пошліны ў бюджэт**

Дзяржаўная пошліна паступае ў мясцовы бюджэт, акрамя дзяржаўнай пошліны, што спаганяецца гаспадарчымі судамі, якая ў адпаведнасці з артыкулам 43 Гаспадарчага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, прынятага Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 5 чэрвеня 1991 года, паступае ў рэспубліканскі бюджэт.

**Артыкул 7. Парадак выплаты дзяржаўнай пошліны**

Дзяржаўная пошліна выплачваецца да падачы заявы або выканання дзеяння, якое абкладаецца пошлінай, або пры выдачы дакумента.

Пошліна па дзеяннях, у якіх адзін бок вызвалены ад выплаты пошліны, выплачваецца поўнасцю другім бокам.

Дзяржаўная пошліна выплачваецца наяўнымі грашамі, пошліннымі маркамі, а таксама шляхам пералічэнняў з рахунка плацельшчыка ў банку.

Дзяржаўная пошліна можа выплачвацца ў свабодна канверсуемай валюце па афіцыяльнаму курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на момант выканання юрыдычных дзеянняў.

Парадак выплаты дзяржаўнай пошліны ўстанаўліваецца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Вяртанне дзяржаўнай пошліны**

Выплачаная дзяржаўная пошліна падлягае вяртанню часткова або поўнасцю ў выпадках, калі:

1) пошліна была ўнесена ў большым памеры, чым патрабуецца па дзеючаму заканадаўству;

2) асобе, якая звярнулася ў суд або гаспадарчы суд, адмоўлена ў прыняцці заявы або заява вернута, а таксама калі адпаведная ўстанова адмовіла грамадзяніну ў выкананні натарыяльнага дзеяння, рэгістрацыі акта грамадзянскага стану або выкананні іншых дзеянняў, што падлягаюць аплаце пошлінай;

3) вядзенне справы спынена ў сувязі з непадведамнасцю справы суду, незахаваннем устаноўленага парадку папярэдняга пазасудовага вырашэння спрэчкі або заява пакінута без разгляду ў сувязі з незахаваннем устаноўленага парадку пазасудовага вырашэння спрэчкі, падачай заявы недзеяздольнай асобай і знаходжаннем на разглядзе ў іншым судзе спрэчкі паміж тымі ж бакамі, аб тым жа прадмеце і на тых жа падставах;

4) гаспадарчым судом спынена вядзенне справы ў сувязі з вызваленнем адказчыка ад выплаты няўстойкі, пені або штрафу па рашэнню кампетэнтнага органа;

5) адменена ва ўстаноўленым парадку ўжо выкананае рашэнне суда або гаспадарчага суда аб спагнанні пошліны з адказчыка;

6) у працэсе разгляду справы судом або гаспадарчым судом удакладнена цана іску, з якога была выплачана пошліна, і цана іску зменшана;

7) асоба, выплаціўшая пошліну, адмаўляецца ад выканання дзеяння або атрымання дакумента да звароту ў адпаведную дзяржаўную ўстанову, якая спаганяе пошліну;

8) муж і жонка, якія не маюць непаўналетніх дзяцей, выплацілі пошліну за рэгістрацыю скасавання шлюбу па ўзаемнаму пагадненню, аднак акт аб скасаванні шлюбу не зарэгістраваны ў сувязі з прымірэннем мужа і жонкі або няяўкай аднаго з іх на рэгістрацыю гэтага акта;

9) акты грамадзянскага стану, натарыяльна засведчаныя дагаворы, пасведчанні аб праве на спадчыну і іншыя дакументы, аплачаныя пошлінай, прызнаны судом несапраўднымі;

10) адмоўлена ў задавальненні заявы аб выхадзе з грамадзянства і прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь, у выдачы замежнага пашпарта, а таксама калі грамадзянін адмовіўся ад выезду за мяжу да атрымання замежнага пашпарта;

11) гаспадарчы суд накіраваў заявы па пераддагаворных спрэчках на разгляд іншаму гаспадарчаму суду, дзе прадугледжаны больш нізкія стаўкі пошліны;

12) у іншых выпадках, якія вызначаюцца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Адказнасць за правільнасць спагнання дзяржаўнай пошліны**

Кіраўнікі ўстаноў, якія спаганяюць дзяржаўную пошліну, нясуць адказнасць за правільнасць спагнання пошліны, а таксама за своечасовае і поўнае пералічэнне яе ў бюджэт у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 10. Органы, якія ажыццяўляюць кантроль за правільнасцю спагнання дзяржаўнай пошліны**

Кантроль за дзеяннямі ўстаноў, якія спаганяюць пошліну, ажыццяўляецца іх вышэйстаячымі органамі.

Галоўная дзяржаўная падатковая інспекцыя Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь і яе мясцовыя дзяржаўныя падатковыя інспекцыі абавязаны праводзіць праверкі ва ўсіх установах, якія спаганяюць дзяржаўную пошліну, па пытаннях правільнасці спагнання пошліны, а таксама своечасовасці і паўнаты ўнясення яе ў даход бюджэту.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

10 студзеня 1992 г.
г. Мінск

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай пошліне»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай пошліне» з 1 лютага 1992 года.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 25 студзеня 1992 года зацвердзіць памеры ставак дзяржаўнай пошліны, прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай пошліне» і ўнесці прапановы ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб змяненнях і дапаўненнях заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

10 студзеня 1992 г.
г. Мінск.

СПАВЯДАЛЬНАЕ

# ПРАСВЯТЛЕННЕ

Вядома, што калі маладыя жывуць надзеямі, то старыя — пераважна ўспамінамі. Я таксама дасягнуў таго ўзросту, калі ўсё часцей і часцей вяртаешся да ўспамінаў, адны з якіх—грэюць і ўсяляюць веру, што жыццё не было дарэмным, другія ж пакідаюць у душы толькі прыкры асадак. І галоўная з нашых памылак, як мне думаецца, — здрада, адступленне ад агульначалавечых, духоўных каштоўнасцей, якія прапаведавала і несла ў свет таксама і рэлігія. Звыш 70 гадоў наш велізарны платны партыйны апарат з усімі яго добраахвотнымі памочнікамі імкнуўся задушыць і знішчыць веру людзей у вышэйшую справядлівасць, не грэбуючы самымі бесчалавечнымі метадамі.

Памятаю, як недзе ў 50-х гадах, калі я сам працаваў штатным работнікам Драгічынскага райкома КПБ, нашы партыйныя важакі даручалі групам актывістаў паўсюднае знішчэнне крыжоў і храмаў. Варта было мне сказаць сваё слова — не, не ў абарону рэлігіі, а толькі супраць нецывілізаваных метадаў ганьбавання вернікаў, як мае месца ў райкоме вельмі хутка трапіла пад скарачэнне. Там, як мне цяпер бачыцца, увесь час была патрэба ў паслухмяных выканаўцах любой, спушчанай зверху, волі. Усялякія сумненні асуджаліся і караліся «строгім і прынцыповым» партыйным судом.

Вядома ж, маё тагачаснае выступленне нікольні не змяніла існаваўшую палітыку ў адносінах да царквы, да людскіх святынь. Але цяпер я спакойны, што свой чалавечы абавязак на той момант выканаў, паўстаўшы супраць ганебных метадаў усталявання прыярытэтаў Савецкай улады, якую абараняў і ў ідэалы якой шчыра верыў.

І, разам з тым, вельмі прыкра зараз усведамляць, што сёння ўсё маё пакаленне нясе крыж аднолькавай віны. І тыя, каго за крамольную абарону спрадвечных каштоўнасцей пазбаўлялі права быць на партыйнай рабоце, і тыя, хто за добрыя паказчыкі ў атэістычным выхаванні і своечасовыя справаздачы аб скінутых крыжах і зруйнаваных храмах ішлі на павышэнні з добрымі акладамі.

Сёння разумею: усвядомлена ці не, а ўсе мы рыхтавалі крах КПСС. І цяпер, калі партыя існаваць перастала, вельмі мала заўважаю шкадавання з боку простых людзей-працаўнікоў. Як быццам яе і не было.

Мне зразумелы (бо сам перажыў) душэўны боль многіх франтавікоў і інвалідаў, якія ўступалі ў рады КПСС пад Масквой, Ленінградам, Сталінградам, ведаючы аб адной сваёй прывілеі — першымі падняцца ў атаку і першымі памерці, абараняючы ўладу Саветаў. І пасля, застаўшыся зраненымі, скалечанымі той вайной, іншых прывілей многія з іх так і не спазналі. І пакуль яны, сапраўдныя камуністы, выстойвалі чэргі на атрыманне людскага жылля і мелі пенсіі, якіх і ў ранейшыя часы хапала ўсяго на 3 — 4 кілаграмы добрай каўбасы, іншыя, не стамляючыся паўтараць лозунг «Чалавек чалавеку — сябар, таварыш і брат», ездзілі на персанальных машынах і карысталіся льготамі, якія пашыраліся і на іх дзяцей. Прычым не спынялі іх ні людское асуджэнне, ні боязь кары Усявышняга... Гэта ж толькі здавалася, што людзі нічога не бачаць. На самой справе беспартыйныя і радавыя камуністы аб сваіх важаках-начальніках часцей меркавалі не па іх словах, а па ўчынках. І, падобна мне, многія — з глыбокім расчараваннем і пакутамі сумлення—прыходзілі да пераканання, што намнога больш братэрства і справядлівасці ў апошнія гады было ў праваслаўнай ці баптысцкай абшчыне, чым у нашай камуністычнай партыі.

Тое спазнаў і на сабе.

На працягу апошніх пяці гадоў мяне некалькі разоў накіроўвалі на лячэнне ў абласную бальніцу. Зразумела, гэта быў даволі самотны і складаны для мяне час. Але што найбольш уразіла: мяне ні разу не наведалі, не пацікавіліся самаадчуваннем ні таварышы па камуністычнай партыі, у радах якой знаходзіўся амаль 50 гадоў, ні кіраўнікі раённай арганізацыі ветэранаў вайны і працы. Сапраўдную чалавечнасць і міласэрнасць на гэтым крытычным этапе майго жыцця праявілі якраз тыя, каго наша партыя ўвесь час кляйміла «палітычна адсталымі і несвядомымі»—мае суседзі і знаёмыя. Усе яны — ці то праваслаўныя вернікі, ці баптысты — сваім саўдзелам паказалі, кім павінен быць чалавек чалавеку. І рабілі гэта душэўна і сціпла. Ці не таму выстаялі, нягледзячы на шматгадовыя ганенні, царква і рэлігійныя абшчыны, што там людзі без інструкцый, пастаноў, рэкамендацый, а проста па загаду душы і сумлення клапаціліся адзін пра аднаго, дапамагаючы не толькі добрым словам, але і канкрэтным дзеяннем? У адрозненне ад нашай партыі, дзе клопат аб радавых працаўніках быў толькі на паперы, у той час як на справе ўладу маючыя больш дбалі пра сябе, сваю кар'еру і свае кішэні, не зважаючы на тых, хто сапраўды і сілы, і здароўе, і жыццё сваё паклаў на алтар Айчыны.

Цяпер для мяне гэта — ісціна. Шкада, аднак, што, каб зразумець яе, трэба было жыццё пражыць.

**Пётр ЧЭЧКА,**
**ветэран вайны і працы.**
г. Драгічын.

**У слесара Уладзіміра АЎСІЕВІЧА работа вельмі адказная. У многім менавіта ад яго залежыць тое, ці будуць своечасова дастаўлены ў магазіны Мінска хлеб, малако, іншыя прадукты. Уладзімір працуе ў вытворчым аб'яднанні «Мінскгандальаўтатранс», чые машыны забяспечваюць усе перавозкі ў гандлёвыя ўстановы горада. Слесару Аўсіевічу даручаны рамонт і дыягностыка рухавікоў. У тым, што транспартам аб'яднання штогод перавозіцца 120 тысяч тон грузаў, ёсць часцінка працы Уладзіміра, які забяспечвае якаснае і хуткае абслугоўванне рухавікоў.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

